© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 41 (1743) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 8 КАСТРЫЧНІКА 1989 г. Цана 100 зл.




Д-Р АЛА ОРСА-РАМАНА, НАВУКОВЫ СУПРАЦОЎНІК КАФЕДРЫ БІЯХІМІІ НЬЮ-ЙОРКСКАГА ГАРАДСКОГА УНІВЕРСІТЭТА, АБАЯЛЬНЫ ЧАЛАВЕК І БЕЛАРУСКА, КІРАЎНІК БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦКАГА ГУРТКА „ВАСІЛЁК“ З НЬЮ-ЙОРКА, ЯКІ УПЕРШЫНЮ ВЫСТУПАЎ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ, ГАВОРЫЦЬ ПРЫВІТАЛЬНАЕ СЛОВА НА ЮБІЛЕЙНЫМ КАНЦЭРЦЕ ХАРАВОГА КАЛЕКТЫВУ „ВАСІЛЁЧКІ“ З БЕЛЬСКА-ПАДЛЯШСКАГА.

Рэпартаж Ады Чачуга „СУСТРЭЧА З БЕЛАРУСКАЙ“ чытай на ст. ст. 6—7.

Фота Юрыя Вяжхоўскага.

## Пра нашых пісалі...

### І ХВАЛЯЦЬ, І ГАНЯЦЬ

Здзіўленне, што беларусы прынялі самастойны ды заўважны ўдзел у выбарах у польскі парламент, доўга будзе відаць у друкаваных публікацыях. У шостым нумары беластоцкага салідарніцкага часопіса Dobro Wspólne вынікі галасавання пракаментавалі так: арыфметыка галасоў паказала, што ў беларускіх гмінах уплывы „Салідарнасці“ блізкія нуля, а ў ваколлях з польскім насельніцтвам — наадварот, камуністы не маюць аўтарытэту ў грамадстве. Пры такім супастаўленні дзіўна нелагічна патрактаваў каментатар вынікі, якіх дабіліся беларускія кандыдаты, зазначыўшы з нейкай прыемнасцю, што ў небеларускіх раёнах яны — практычна — не існавалі ў свядомасці выбаршчыкаў. Як і камуністы, дадаў (стаіўшыся за ініцыяламі „і.х.“ — Ірэнэуш Харашуха?). І завяршыў: беларусы — гэта такі элемент, які не глядзіць у будучыню, значыць, не рэвалюцыйны, кансерватыўны...

Нашымі выбарамі пацікавіліся і ў Мінску. Тыднёвік „Літаратура і Мастацтва“, самы аўтарытэтны маральна часопіс у Беларускай ССР, у нумары ад 25 жніўня змясціў інтэрв'ю, якое даў наш рэдакцыйны калега Ян Максімюк. Салідна абдзяліўшы савецкага чытача нашымі праблемамі нацыянальнай меншасці, усё-такі забыўся Ясь падкрэсліць, што аніякіх выбараў мы не выйграем, пакуль не будзе ўтворана асобная выбарчая акруга для беларусаў менавіта (нас жа ў Беласточчыне значна менш паловы!). Мог дапоўніць сваю інфармацыю яшчэ і тым, што ва ўмовах польскіх змен проста мусім імкнуцца — таксама — да стварэння беларускай палітычнай партыі. Калі самі за сябе не заступімся, то аніхто за нас гэтага не зробіць. Вось так.

Упершыню шырэй, як здаецца, прысвяціў нам увагу „Беларус“, які выдаецца ў Нью-Йорку. У добрасумленна напісанай карэспандэнцыі „Беларусы Беласточчыны на палітычнай арэне“ аднак, бракуе глыбейшага аналізу. Нашы кандыдаты прайгралі жа толькі фармальна, бо не маглі выйграць пры такой ардынацыі. У шматлікіх мясцовасцях, у якіх пераважаюць беларусы, атрымалі яны найбольш галасоў (напр., у Ласінцы, Навакорніне, Юшкавым Грудзе, перамагаючы ў некалькі разоў камуністыч-

(Працяг на стар. 2)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## НА МЯЖЫ

### ДУМКІ АБ АЎТАНОМІІ

Некалькі месяцаў таму назад літоўскія палякі аб'явілі ідэю аўтаноміі для акругі, у якой палякаў пражывае большасць. Я з многімі палякамі гаварыў аб гэтай справе. Усе яны былі „за" і даказвалі, што такое імкненне палякаў лагічнае і законнае. Што вынікае яно з глыбокай адказнасці за лёс сваёй меншаснай субстанцыі. Калі толькі я намякаў аб аўтаноміі для беларусаў у Польшчы, рэакцыя маіх размоўцаў была рашуча адмоўная. Усе яны даказвалі, што гэта пасварыла б беларусаў з палякамі, што шкодзіла б польскай дзяржаве, што давяло б да ўзрастання беларускага нацыяналізму, што было б крокам у бок адрыву ўсходняй Беласточчыны ад Польшчы і далучэння яе да БССР. Такая рэакцыя сведчыць аб тым, што людзі не ў стане прымяняць тыя самыя ацэначныя крытэрыі да падобных спраў.

Беларусы ў ПНР засяляюць у асноўным тэрыторыю былых паветаў Дубровскага, Сакольскага, Беластоцкага, Бельскага, Гайнаўскага і Сямяцічкага. Яшчэ пасля вайны беларусы ўсюды тут складалі рашучую большасць. У апошнія гады сітуацыя мяняецца ў некарысць беларусаў. Усё большая колькасць палякаў пераязджае ва ўсходнюю Беласточчыну. Чыноўнікі, спецыялісты ад прамысловасці, лясныя службы, а нават вучоныя — у філіял Акадэміі навук у Белавежу. Найбольшую пагрозу ствараюць асаднікі, якія атрымліваюць тоўстыя мільёны, калі рашацца пасяліцца сярод беларусаў. Дайшло да таго, што паявіўся артыкул, у якім прапануецца перанясенне на ўсходнюю Беласточчыну цэлых вёсак разам з касцёламі з Келецкага і Кракаўскага ваяводстваў. Зразумела, што такія канцэпцыі вельмі спадабаліся б Пілсудскаму і Сталіну, якія захапляліся магчымасцю перасялення этнічных груп.

Калі б такая ідэя была рэалізавана, сталася б вялікае няшчасце. Усходняя Беласточчына страціла б свой этнічны і нацыянальны каларыт, дэнацыяналізавалася б і ў канцы канцоў выставіла б як найгоршае пасведчанне польскай дзяржаве і польскаму грамадству.

Здаецца мне, што Польшча павінна зрабіць усё, каб захаваць назаўсёды нацыянальную спецыфіку ўсходняй Беласточчыны, што будзе гэта не стратай, а здабыткам. Як вядома, па-за межамі Польшчы жыве 11 мільёнаў палякаў. Зразумела, што маці-Польшча зацікаўлена тым, каб незалежна ад таго, дзе жывуць яе дзеці, былі створаны як найлепшыя варункі захавання іх польскасці. Польшча павінна за іх заступацца, бараніць іх. Думаю, што абарона гэта мела б пад сабой вельмі моцны фундамент, калі б Польшча ўзорна вырашыла справу сваіх нацыянальных меншасцей. А вырашыць прыкладна і ўласціва праблему нацыянальных меншасцей гэта значыць стварыць умовы, у якіх гэтым меншасцям не будзе пагражаць дэнацыяналізацыя і ў якіх не толькі захаваюць яны свой нацыянальны твар, але і змогуць усебакова развіваць сваю нацыянальную мову і культуру. А такія ўмовы ў выпадку беларусаў могуць быць загарантаваны тады, калі будзе ўведзена аўтаномія. Зазначаю, што ідзе гутарка аб аўтаноміі абмежаванай, галоўным чынам культурна-асветніцкай. Такая аўтаномія ў ніякім выпадку не абазначала б абмежавання правоў палякаў, якія ад вякоў ці ад нядаўна асяліліся ва ўсходняй Беласточчыне. Уяўляю, што павінна ўзнікнуць Беларуская аўтаномная рада, у якой знайшліся б таксама палякі прапарцыянальна да іх колькасці ва ўсходняй Беласточчыне. Зразумела, што такая Рада павінна мець акрэсленую колькасць сваіх прадстаўнікоў у агульнаваяводскіх установах, кіруючых цэлым ваяводствам. Не ўяўляю сабе, каб такая Рада магла весці антыпольскую прапаганду ці дзейнічаць на некарысць польскай дзяржавы. Непрымальныя для мяне ўсякія думкі — якія, зрэшты, выводзяцца з польскага, а не беларускага асяроддзя — аб тым, што беларусы могуць стварыць дзяржаву ў дзяржаве або далучыцца да СССР. Кожная аўтаномная форма дзеяння павінна зыходзіць з палажэння аб непарушнасці дзяржаўных межаў і аб лаяльнасці беларусаў у адносінах да дзяржавы так доўга, як доўга не будзе яна мець антыбеларускага характару.

**Алесь Барскі**



Новы квартал Вільна — Лаздінай.




### ХТО ПРАЖЫВАЕ НА ВІЛЕНШЧЫНЕ?

Даведваемся пра гэта з „Газеты Выборчай" (нумар 92 ад 14 верасня 1989 г.), у якой змешчаны ліст Кшыштафа Вайцяхоўскага з Варшавы. Аўтара ліста абурае выказванне сенатара Рамашэўскага радыё „Вольная Еўропа", у інтэрв'ю якому сказаў ён, што „польская праблема" на Віленшчыне фактычна з'яўляецца надуманай і ў сапраўднасці не існуе. Рамашэўскі сцвердзіў у ім, што пасля вайны амаль усе палякі адсюль падаліся ў эміграцыю, а зараз жа „польскасць" у Літве абапіраецца амаль выключна на беларускім асяроддзі Віленшчыны.

Ва ўспомненым інтэрв'ю Рамашэўскі выказаў погляд, што 350 тысяч насельніцтва, якое пражывае на Віленшчыне і выдае сябе за палякаў, у сапраўднасці гэта беларусы рымска-каталіцкага веравызнання. У штодзённым жыцці карыстаюцца яны беларускім дыялектам са шматлікімі паланізмамі і русізмамі, які неадукаванае насельніцтва ў вясковым асяроддзі называе гэтак званай „простай мовай" (ад сябе дадайма тут, што тэрмін гэты ўзнік у часы глыбокай паншчыны, калі беларуская мова, якой некалі карысталіся князі і каралі, была ў пагардзе, а гаварылі на ёй амаль выключна сяляне-беларусы, да якіх паны адносіліся, як да „простых" людзей). Рамашэўскі выразна падкрэсліў, што прадстаўнікі гэтага насельніцтва выдаюць сябе за „палякаў" (а мы ведаем пра тое, што не ўсе, бо ёсць сярод іх беларусы з акрэсленай і моцнай беларускай свядомасцю) толькі і выключна таму, што з'яўляюцца яны рымска-каталіцкага веравызнання.

Факт гэты вельмі абурыў К. Вайцяхоўскага і пытае ён, на якой аснове акрэсліць нацыянальнасць? Ці на аснове паходжання ці выбару? Бо паводле яго лічыцца выключна выбар. І пытае далей, чаму Рамашэўскі адмовіў у праве гэтаму насельніцтву адчуваць сябе палякамі?

Наколькі я сарыентаваны, Рамашэўскага, як апазіцыянера, цяжка падазраваць у камуністычных ці савецкіх сімпатыях, а на аснове вывадаў Вайцяхоўскага цяпер мы ведаем, чаму многія палякі адчулі сябе раптам немцамі і выехалі на пастаяннае жыццё ў Заходнюю Нямеччыну. Здзіўляе толькі нябывалая шуміха ў афіцыйных сродках польскай масавай інфармацыі вакол „польскай праблемы" на Віленшчыне і нібыта „дыскрымінацыі" палякаў. Аўтары публікацый дамагаюцца аўтаноміі для ўспомненых „палякаў", але чамусьці прамоўчваюць адначасна, што такая аўтаномія павінна быць гарантаваная правам для амаль паўмільённага беларускага насельніцтва Беластоцкага краю!

Факты гэтыя пакідаем без каментарыяў.

**Сцяпан Дубіна**

## З ДРУКУ

### ШКОЛКА ДЛЯ ДЗЕТАК

... Не ўсім хлопчыкам і дзяўчынкам былі зразумелыя прывітальныя словы, што гучалі для іх на першых занятках гэтай незвычайнай школы. Але спагадлівая інтанацыя, гэтаксама, як і назва — „Нядзельная школка для дзетак-беларусаў", выклікала ў іх добрыя ўсмешкі. Ды і сам урок хутчэй нагадваў гульню, у якой яны з задавальненнем прынялі ўдзел...

Першая ў Маскве нядзельная школа па вывучэнню беларускай мовы пачала дзейнічаць пры Таварыстве імя Ф. Скарыны ў Дзяржаўным музеі імя М. І. Калініна. Прынамсі, яе арганізатары зрабілі ўсё, каб выйсці са звыклых рамак, паклікаўшы на дапамогу песні і казкі, персанажаў лялечнага тэатра.

— У сталіцы жыве цяпер каля 60 тысяч беларусаў, — расказвае старшыня таварыства, кандыдат гістарычных навук А. Каўка. — Іх дзецям і ўнукам адрасаваны гэтыя заняткі, мэта якіх далучыць дзятву да прыгажосці і стыхіі роднай мовы. Хочам, каб заняткі ў нашай школе ўвабралі ў сябе і лепшы вопыт сучаснай педагогікі, і культурна-асветніцкія традыцыі Беларусі.

ТАСС

Масква

(„ЛіМ" ад 8.09.89 г.)

(Працяг са стар. 1)

### І ХВАЛЯЦЬ, І ГАНЯЦЬ

ных, і аж у дванаццаць — салідарніцкіх).

У паслявыбарчай атмасферы раптам вырасла цікавасць да беларусаў. Цяпер што ні дзень, што ні тыдзень нейкая рэдакцыя ў Польшчы лічыць патрэбным апублікаваць больш-менш істотны тэкст на беларускія тэмы. Tygodnik Powszechny, адзін з вядучых польскіх органаў, у перадапошнім ліпеньскім нумары надрукаваў з тытульнае старонкі вялікае інтэрв'ю Зянона Пазняка, лідэра беларускага адраджэння. І як бы ў супрацьвагу гэтаму, нацыяналістычнае Słowo Narodowe змясціла наіўнае выказванне Наталлі Кленіцкай з БССР, з якога можна зразумець, што ўваскрашэнне беларусаў — гэта бяда ды гора палякам!... Усе рэкорды процібеларускай істэрыі пабівае беластоцкі Kurier Podlaski, які пасля сумнай славы цыклу Pod różnymi krzyżami ў прадвесне ўзяўся пад восень пужаць палякаў наступнай публіцыстычнай афёрай, пад назвай Autonomia dla Białorusinów? Затое надта ж удумліва аднёсся да нашых тут пакутлівых праблемаў каталіцкі тыднёвік Tak i Nie, апублікаваўшы восьмага верасня рэпартаж Кшыштафа Карвата, які наведаў Беластоцкі край („Między Polską a Rosją"). Усё роўна што змовіўшыся, дакладна праз тыдзень паўтарыў як бы цэлам ягоныя пастулаты Міхась Шаховіч, якому Gazeta Współczesna абнародавала артыкул „Obiecanki, czy rzeczywistość?" Так катэгарычнай пастаноўкі беларускіх справаў я дагэтуль не чытаў у беластоцкай партыйнай газеце (а пражыў жа болей паўвеку ўжо).

Шануючы цярплівасць чытача „Нівы", пакідаю па-за яго ўвагаю цэлы шэраг банальных публікацыяў — м.ін. Argumenty, Trybuna Ludu, Kultura, — нагадваючы ў заканчэнне якраз разважанні Генрыка Цімка пра памылкі КПЗБ у нацыянальным пытанні (Gazeta Współczesna, 7.IX.), а паўмесяцам раней — „W Nowym Jorku też tańczą Lawonichę", псіхалагічна сенсацыйную „тутэйшаму" гутарку з Алай Орса-Рамана, кіраўніком таго ж „Васілька", які ўчыніў фурор сваімі выступленнямі сёлета ў Беластоцкім краі.

**С.Я.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Марыя Філіповіч

## НОВЫ СЯБАР

(З кнігі „Пра Алеся і яго сяброў")
*Пачатак у папярэднім нумары.*

Назаўтра ў школу Алесіка праводзілі абодва сабакі. Цюпка хутка і ўпэўнена бег паперадзе, раз-пораз азіраўся і весела гаўкаў: „Не адставаць!" Байкал — а прыблуднага сабаку назвалі, вядома ж, Байкалам — бег зводдалі. Яму яшчэ не верылася, што цяпер у яго ёсць гаспадар, якога трэба слухацца і паважаць, і што гэты маленькі гаспадар дазволіў правесці сябе ў школу. Кожны раз, калі Алесік прыпыняўся, спыняўся і Байкал, і ў вачах у яго з'яўляўся страх. Сабака баяўся, што хлопчык зараз прагоніць яго і ён зноў застанецца адзін.

Вось яны і дайшлі да павароткі. Цюпка спыніўся першы і не спяўся, як раней пры развітанні, а весела віляў хвосцікам. „Ты ідзі, я не буду больш сумаваць без цябе", — нібы хацеў сказаць ён сябру.

*

Раніцай, як снедалі, маці сказала бацьку:

— Ты распытай на рабоце...

(Працяг на стар. 10)



Удзельнікі драмгуртка са школы ў Дубяжыне ў час рэпетыцыі. Фота Я. Чэрнякевіч.

Станіслаў Шушкевіч

### ЖАБКІ РАКА Ў ВОЗ ЗАПРЭГЛІ

У выбоіне на грэблі
Жабкі рака ў воз запрэглі.
Не жыццё ў балоце, гора:
— Вязі, дружа, на пагорак!
Нам усім цяпер, здаецца,
Можна на гары пагрэцца.
Дык імчы нас хутка, скора
На той сонечны пагорак.
Селі жабкі ўсе на возе,
Гэтак рэдка квакаў возяць.
Рак вязе іх ля прысад,
Не наперад, а назад.
Кажа рак: — Я вас вязу
Не на горку, а ў лазу.
Там, як мне цяпер здаецца,
Можна гуртам вам пагрэцца,
І на беразе ракі
Загарадь вашы бакі.

### КОНІК ПАЛЯВЫ

Скача конік палявы,
Нібы ён без галавы,
Робіць вёртка выкрунтасы,
Ажно збіліся абцасы.
Так танцуе вёрткі франт,
Аж зляцеў на ботах рант,
А зялёны зграбны фрак
Закруціўся, як вятрак.
— Жвавы конік палявы,
Мяккай не тапчы травы
І па кветках не гайсай,
Звонкіх пчолак не чапай!
— Хіба ж я магу стрымацца,
Хіба ж я магу суняцца?
Польку страказа іграе,
А я сіл ужо не маю,
Скачуць ногі даўпаду.
Хіба ж даць магу ім раду?

Мікола Корзун

### ШАПКА



Не ведаю, з чаго пачаць, — з шапкі ці з гнязда? Адным словам, было так. Пайшлі мы з хлопцамі неяк увесну на луг. Усе адзеліся лёгка, толькі я адзін быў у зімовай шапцы. І вось, калі мы пачалі дужацца і бегаць навыперадкі, стала мне горача. Я скінуў шапку і павесіў яе на куст.

Падвечар хлопцы заспяшаліся дадому, а я пабег па шапку. Але яе нідзе не было. Я аблазіў усе кусты, ды так і не знайшоў.

Дома я расказаў аб усім маці. Яна насварылася на мяне, але не вельмі, бо шапка была старая і ўвосень усё роўна трэба было купляць новую...

Мінула з тыдзень ці, можа, крыху больш. Аднойчы я і суседаў сын Лёня ішлі праз луг. Ідзём сабе, размаўляем. Раптам Лёня кажа:

— Віцька, зірні!

Я аж усклікнуў ад радасці. Мая шапка! Яна ляжала між кустоў у ямінцы. І як я тады яе не знайшоў? Здаецца ж, усё навокал абшнырыў!

Падбеглі мы да шапкі, глядзім, а ў ёй — тры карычневыя з шэрымі крапінкамі яечкі.

— Цур, мае! — крыкнуў Лёня. — Я першы ўбачыў.

— Не, мае, — кажу я. — Яны ў маёй шапцы ляжаць.

— Ну добра, — прапанаваў Лёня, — каб не было крыўдна, давай падзелім. Адно табе, адно мне, а адно пакінем.

У гэты час дзесьці ўгары закрычала кнігаўка. Я схапіў Лёню за руку, і мы шмыгнулі за куст. Кнігаўка пакружылася і села недалёка ад нас.

— Якая прыгожая! — прашаптаў Лёня.

Так блізка ні я, ні Лёня яшчэ ні разу не бачылі кнігаўкі. Яна нібыта ў чорным пінжачку, а на брушку — беласнежная кашулька. На галаве ў птушкі тырчаў смешны чубок.

Кнігаўка прыгнулася, падбегла да шапкі і села ў яе.

— Ты як хочаш, а я забяру яечкі, — памаўчаўшы, сказаў Лёня.

Я ўзлаваўся.

— Эх ты, невук, — кажу. — А яшчэ ў школу ходзіш. Гэта ж карысная птушка. А калі забярэш яйка або хоць дакранешся да яго рукою, яна адцураецца гнязда. А як адцураецца, то лічы, што і сама прапала.

— Чаму? — спытаў Лёня.

— Кажуць, што калі птушка не выведзе дзіцянят, дык другія птушкі не возьмуць яе з сабою ў выраі. Яна застанецца тут на зіму і згіне.

— Адкуль ты ведаеш?

— Дзед Мірон казаў.

Кнігаўка па-ранейшаму спакойна сядзела ў шапцы.

— Хадзем, Лёня, а то яшчэ спалохаецца, — прапанаваў я.

Лёня не зводзіў вачэй з гнязда.

— Чуеш?

Лёня зморшчыўся:

— От прыстаў, як смала...

Дадому мы ішлі моўчкі. Лёня ўсё нешта думаў, а калі падыходзілі да сяла, запытаў:

— Няўжо птушкі не пускаюць у выраі тых, хто не вывеў дзіцянят?

— Кажуць, — пацiснуў я плячыма, і мы разышліся.

Праз некалькі тыдняў пачаліся канікулы. І ўжо на другі дзень мы з Лёнем прыбеглі на луг праведаць наша гняздо. Шапка была пустая.

— Няўжо вывеліся? — здзівіўся я. — Так хутка? А калі вывеліся, то дзе ж птушаняты?

— Можа, іх які звер з'еў? Ліса ці яшчэ хто-небудзь? — выказаў здагадку Лёня.

Я маўчаў і чакаў, што ён скажа яшчэ.

— Шкарлупкі валяліся б, — разважаў Лёня. — А можа, і валяюцца?

Ён лазіў па траве, шукаў у кустах, у ямінках, але нічога не знайшоў.

— Няма. Значыць, нехта забраў.

Мне здалося, голас яго здрыгануўся, быццам ён сам быў у нечым вінаваты. І я падумаў, што яечкі забраў не хто іншы, як ён. Калі б гняздо знайшоў другі хлапчук, то, вядома, не пакінуў бы на месцы і шапкі.

Я крута павярнуўся да Лёні і сказаў:

— Дай чэснае слова, што ты не браў яечак!

Лёня спачатку збянтэжыўся і доўга глядзеў на мяне, часта міргаючы вачыма. Потым узняў руку і даў слова. Аднак мне чамусьці ўсё роўна не верылася. Я ўжо наважыўся адкінуць нагой шапку і ісці дамоў. Але Лёня стрымаў мяне і прапанаваў:

— Давай пакінем шапку як

(Працяг на стар. 10)



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## РАСТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК „НІЎКІ"

**Вышыня** — жанчына, якая вышывае.
**Вязень** — вязовы гай.
**Гадавіна** — подласць.
**Гадзіна** — Зіна, не дай божа.
**Гадзіннік** — подлы чалавек, хам.
**Гайсанне** — кулік у лесе.
**Галіцыя** — цырульня.
**Галічанін** — цырульнік.
**Гарэлка** — печка або лямпачка.
**Града** — градовая хмара.
**Граматa** — ігра на маце.
**Граміла** — прыемны музыкант.
**Грампласцінка** — плітка вагою ў адзін грам.
**Граната** — Наталька-музыкантка.
**Графаман** — чалавек з графства.
**Грудка** — жаночая цыцка.
**Грудкі** — персі.
**Грузія** — цэх грузчыкаў (месца, дзе грузяць).
**Грузчык** — жыхар Грузіі.
**Грызлі** — зубы.

„ядань"

### ПРАГУЛКА ПЕШШУ

(гумарэска)

Пазваніў мне аднойчы па міжгароднаму тэлефону даўні знаёмы.

— Збіраюся ў камандзіроўку ў ваш горад. Што, калі завітаю да цябе?

— Ну як жа, заходзь! Буду рады...

Сустрэў Міколу я на вакзале. Абняліся, ледзь не пацалаваліся. Колькі гадоў не бачыліся!

— Ну што, далёка ты жывеш? Можа, пойдзем пешшу.

У мяне якраз выхадны, спяшацца няма куды.

— Напэўна, вунь за тым вуглом у вас райком, — гаворыць Мікола.

— Так, сапраўды...

Прайшлі яшчэ некалькі кварталаў.

— Здаецца, падыходзім да абкома?

— Ты, напэўна, быў раней у нашым горадзе?

— Не, ніколі не быў...

— А адкуль ведаеш, што тут размяшчаецца?

— А па вопратцы, па шапках... Бач, выходзяць людзі ў штучных футрах, у шапках з хатняй жывёлы. У руках найбольш карычневыя папкі — значыць, райкомаўскія... Натуральны мех, дзічына на галаве — у абкоме працуюць, няйначай. Папкі ў іх чырвоныя...

— Глядзі ты, сапраўды...

— Давай пойдзем другой дарогай, — гаворыць раптам Мікалай. — Бабровыя шапкі пачалі трапляцца, а мне не вельмі хочацца з імі сустракацца.

Мы перайшлі на другую вуліцу.

— Ведаеш я таксама... У сваёй вобласці я займаю не абы-якую пасаду, — сказаў Мікалай і папраўіў на галаве шапку з куніцы.

**Васіль Ферапц**

## НІЎКА



Мал. В. Кудзіна („Кракадзіл")

## АФАРЫЗМЫ

Няма больш журботнага вобразу, як малады песіміст; за выключэннем старога аптыміста.

✳

Гэта дзіўнае, вельмі дзіўнае, што ваенная мужнасць такая паўсюдная, а грамадзянская — такая рэдкая.

✳

Ведаю старадаўні тост, які варты многа золата з-за сваёй прыгажосці: „Каб ты не сустрэў прыяцеля, калі будзеш уваходзіць на гару поспеху".

✳

Лепш зусім не адзывацца і паказвацца дурным, чым адзавацца і развеяць усялякія сумненні.

✳

Чалавек зробіць многа, каб яго любілі, і ўчыніць усё, каб яму зайздросцілі.

✳

Любім такіх людзей, якія без сумнення гавораць тое, што думаюць, пад варункам, што думаюць так сама, як і мы.

✳

Дабрачыннасць не мела ніколі такога прызнання, як грошы.

✳

Патрапіў прадказваць войны і голад. Не было гэта, па праўдзе кажучы, надта цяжкае, бо заўсёды дзесьці была вайна і дзесьці лютаваў голад.

✳

Пасля многіх гадоў прызнаюся, што я памыляўся, калі гаварыць пра Еву. Лепш жыць з ёю па-за раем, чым у раі без яе.

**Марк Твэн**

## СОН МАЦІ

Ясень майскаю расою
Мыў зялёны парасон,
А мне гэтай раніцою,
Вось які прысніўся сон.
Быццам зноў я стала маці
І ўсё думала-гадала,
Як дзіця сваё назваці
І, нарэшце, прыгадала.
Назаву яго Сазонам,
Незвычайным рэдкім імем.
Хай звініць магутным звонам!
Маім іменем любімым.
Ён як толькі нарадзіўся,
Гаварыць адразу стаў:
На свет глянуў і здзівіўся,
І мне дзякаваць пачаў:
„Добра маці ты зрабіла,
Што ў такі складаны час
Нарадзіць мяне спяшыла,
Я з бяды пазбаўлю вас.
Ад мяне скрываць не трэба,
Свет на воласе трымаўся:
Гаварыла само неба,
Што народ дзесь ашукаўся.
Што яго навука веку
З вадарода і урана,
Рыхтавала чалавеку
Смерць з грыбоў сваіх паганых.
Не радзіцца мне Сазонам,
Калі б я не здоліў атам:
Будзем дыхаць мы азонам
І друг другу стане братам!
Раптам бачу, мой Сазонка
У жыццё масты кладзе —
Мая родная старонка
Першая да міру йдзе.
Але бач, як хутка збыўся
Мой чароўны гэты сон,
Бо ў народзе нарадзіўся
Не адзін як мой Сазон.

**Аляксандра Елісеенка**

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### МАЛАДЫ КАЗАЧА, ТЫ ЧАГО ЗАЖУРЫЎСЯ

(народная)

Малады казача, ты чаго зажурыўся,
Воранаму коню да й на грыўку схіліўся?

— Бяжы, бяжы, коню, да й у чыстае поле,
Дзе мая дзяўчына пшанічаньку поле.

Поле яна, поле, да й куколь выбірае,
Воранаму коню ўсё на грыўку кідае...

— Кідай ты, дзяўчына, да й куколь выбіраці,
Ой, паедзем дадому бела ложа слаці.

Паедзем дадому бела ложа слаці,
Да й штоб не узнала твая родна маці.

— Ой, баюсь, казача, ой, баюсь я худога.
— Ой, не бойся, дзяўчына, не зраблю я благога.

Працяжна ♩=52

Соло

Ма- ла- ды ка- за- ча, ты ча- го за- жу- рыў- ся,

Хор

ва- ра- но- му ко- ню дай на грыў- ку схі- ліў- ся?

Варыянт для голаса

Працяжна ♩=52

Ма- ла- ды ка- за- ча, ты ча- го за- жу- рыў- ся,

ва- ра- но- му ко- ню дай на грыў- ку схі- ліў- ся?

### МАРК ТВЭН І ГРАФАМАН

Амерыканскі сатырык Марк Твэн, адказваючы на ліст маладога кандыдата на пісьменніка, напісаў:

„Вы хацелі ў мяне параіцца і таму пасля прачытання вашай навелы рэкамендую з цэлай адказнасцю: трэба вам есці як мага найбольш рыб. У іх многа фосфару, які паводле лекараў пазітыўна ўплывае на інтэлігенцыю. Мяркую, што ў вашым выпадку хопіць два сярэдняй велічыні кіты".

### АКТРЫСА І ЮНАК

Аднойчы хтосьці прыстаў на вуліцы да Магдаліны Броган. Раззлаваная актрыса крыкнула нахабніку:

— Вы памыляецеся, я не жанчына лёгкіх паводзін!

Але прыкмеціўшы, што прыстае прыгожы юнак, сказала ўсміхаючыся:

— Паверце мне, я вельмі гэтага шкадую.

### ПІКАСО І НАТУРШЧЫК

Пабла Пікасо прапанаваў аднаму з сябраў намаляваць партрэт. Ледзь натуршчык паспеў сесці ў крэсла, як пачуў вокліч маэстра:

— Гатова!

— Як гэта? Так хутка? Не прайшло нават пяць мінут.

— Не забывай, мой дружа, — заўважыў Пікасо, — што ведаю цябе ўжо сорак гадоў...




**Абменьваючыся думкамі, не перашкаджайце спаць суседзям.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020